# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 21 (1515) ГОД XXX БЕЛАСТОК 26 МАЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.



Міраіда Садоўская з Васькоў — першае месца сярод салістаў у фальклорнай песні (узнагарода „Нівы“).



Ірына Макац — першае месца разам з Любай Гаўрылюк сярод салістаў сучаснай песні.

## ЗНАЧНЫ КРОК НАПЕРАД

Сёлетні цэнтральны агляд конкурсу „Беларуская песня“, які адбыўся 5 мая г.г. у Беластоцкай філармоніі, парадаваў перш за ўсё значным павышэннем выканаўчага майстэрства, узроўнем. Ці то таму, што праходзіў ён у юбілейныя дні 40-годдзя перамогі над фашызмам, калі хочацца, каб песні радасці запанавалі над смерцяноснымі стрэламі, ці то таму, што гэтая найважнейшая штогадовая імпрэза БГКТ набліжаецца да сваёй дарослае, бо „Беларускай песні“ ўжо споўнілася 16 год, агляд праходзіў у асабліва ўзнёслым настроі. Выдатна прычыніўся да гэтага старшыня Прэзідыума ГП БГКТ д-р А. Баршчэўскі, які, адкрываючы агляд, падкрэсліў яго значэнне ў культурным жыцці не толькі беларускага асяроддзя, але і ўсяго грамадства, адзначыў, што гэта песні шчырых сэрцаў людзей ад плуга і варштату ў гонар найважнейшага для ўсіх — мірнай, стваральнай працы.

І сам агляд быў пацвярджэннем таго, што толькі салідная і настойлівая праца прыносіць радасны плён, бо якраз дзякуючы ёй спявачкі з Тынявіч каля Нарвы, самі, без якой-небудзь інструктарскай дапамогі, патрапілі ўзняцца да ўзроўню найлепшых. Таксама сваёй старанлівай і сумленнай працай дабіліся выдатных вынікаў нашыя гданьчане. На радасць нам усім расце ў сілу і дасканаліць сваё майстэрства Гайнаўскі хор. Сёння ўжо гайнаўскія спевакі не толькі небяспечныя канкурэнты бельскім „Васілёчкам“, але шмат у чым пераўзышлі іх. Некалькігадовыя намаганні і старанні актыву гуртка БГКТ у Беластоку, асабліва ахвярнасць яго старшыні В. Ласкевіч, увянчаліся ўдачай: песенны Беласток азваўся новымі, звонкімі „Каласкамі“ — хорам, дуэтамі, салістамі. Так, наша і народная, і прафесіянальная беларуская песня будзе жыць і развівацца! Доказ гэтаму якраз сёлетні цэнтральны агляд, на якім ўпершыню выступілі і то вельмі ўдала маладыя людзі: М. Садоўская, І. Макац, У. Іванюк — салісткі, А. Макац і І. Макац — у дуэтах, многа новых людзей у калектывах. І ўсе яны з добрымі галасамі, цікавай, свежай інтэрпрэтацыяй.

Асабліва радуе тое, што людзі імкнуцца самі складаць песні і ў іх захаваць памяць пра самае важнае, глыбока перажытае. Звычайны селянін Мікалай Ігнацюк з Рыбалаў склаў словы песні пра 13 хлопцаў з гэтага сяла, якія пайшлі на апошнюю вайну, і з іх вярнулася толькі двух. Гэтыя трагічныя ў сваёй вымове і глыбока чалавекалюбныя словы паклаў на музыку кіраўнік калектыва Пётр Нявінскі. І так, памяць пра тых, чые косці спачылі на далёкіх і чужых землях, не загінула, яна жывая, неўміручая.

Дастойны пахвалы і спробы новай, арыгінальнай апрацоўкі і аранжыроўкі народных песень Беласточчыны. На аглядзе цікавую апрацоўку М. Артышэвічам папулярнага „Прымака“ праспяваў пад яго ж кіраўніцтвам хор „Бярозкі“ з Кнарыдаў. Творчы падыход М. Артышэвіча да свае працы прынёс добры вынік у выступленні хора з Чаромхі — высокі ўзровень і арыгінальнае скарыстанне надта рэдкага ў нас рэчытатыву. І не толькі М. Артышэвіч. Маладзенькі кіраўнік хора з Міклашэва П. Скепка чула і ўмела дабыў мясцовыя песенныя традыцыі (падгалоскі, фальсет).

Таксама даволі багаты быў рэпертуар агляду, асабліва рознымі жанрамі народнай песні, але выразна бяднейшым аказаўся сучаснай прафесіянальнай песняй. Кіраўнікам

(Працяг на стар. 2)

## МАТУЛІ

ТРЫПЦІХ

1

Самы вялікі дарунак —
З табою спатканне
На зарападзе,
На завадзі зніклых дзён...
Гасне апошняя зьічка
Ў тваім пагглядзе,
І засланяе неба
Ціхі вячэрні сон.

А я наўздагонку
Пабегла б гадам мінулым —
Вярнуць тваю песню,
Што колісь плыла на загон,
Дзе жала палоску ты
Пад аваднёвым гулам
Ці да крыві пазногцяў
Палола свой кволы лён.

Вярнуць твае ранкі
Імкнуся, матуля, шчыра
У засені тыя,
Дзе жаўранка ліўся спеў...
Ды песня твая
Даўно адляцела ў вырай,
І серп твой зламаўся,
Лён кволы адшалясцеў...

2

Помню, вярнулася з поля,
Прысела спачыць на ўслоне
На саматканым прыполе
Леглі твае далоні.
А спёка млела на ніве,
За лета — ані дажджынкі...
І дзе заблудзіліся ліўні?
Якія будуць дажынкі?

Не ссохлася б глеба на камень
На той палосцы ячменю...
І дзесяццю ручайкамі
Пальцы плылі з каленяў.

3

Сніцца мне часта маці:
То сустракае з дарогі
І, поўная хатніх турботаў,
З каморы нясе пачастунак.
То побач сядзіць на лаве
І нештачка ўсё гаворыць —
Расказвае ціха-ціха,
Бы подых вясняната ветру,
Бы шэлест жытнёвых калоссяў...

І раптам у сэрцы трывожным
Становіцца неяк лагодна,
Нібы пасля песні жалейкі,
Нібы пасля болю — сцішэнне...

Сніцца мне часта маці.
І добрыя раяць суседкі
Паставіць адну хоць свечку
І за душу памаліцца,
Справіць па роднай памінкі.

Слухаю шчырых парадаў,
Гатовая для найраднейшай
Пайсці на любую ахвяру,
Без розніцы — у рай або ў пекла.
Ды раптам становіцца страшна:
Яна ж можа больш не прысніцца.

Ніна Тарас

## Помнікі культуры

# ГРОДЗІСК

Гісторыя назвы. У манаграфіі аб Падляшшы назву гэтую сустракаем пад 1580 г. У 1676 г. Гродзіск выступае як вёска і як назва панскай сялібы, у 1794 г. — як мястэчка, у 1880 г. — вёска з фальваркам. Пасля I сусветнай вайны ў спісках бачым яго як вёску і фальварак або паселішча. У інфарматары гаворыцца: „Гродзіск — гэта вялікая вёска з раннесярэдневяковым гарадзішчам у палацовым парку“.

Паходжанне назвы. У „Геаграфічным слоўніку“ тэрмін „градзіска“ выступае часта. Абазначае ён мясцовасць, дзе быў або яшчэ ёсць абаронны вал, за якім акалічнае насельніцтва шукала сховішча ў час варожых нашэсцяў. Градзіска — малая абаронная крэпасць, насыпаная з зямлі, у адрозненне ад гарадзішча („гроду“) — вялікай і мацнейшай крэпасці. Людзі сяліліся каля гарадзішчаў, бо тут было больш бяспечна. І так выраслі першыя гарады, напр. Драгічын, Мельнік, Сураж, Бранск, Бельск.

Археалагічны матэрыял даюць „горкі“ — узвышшы ў ваколіцы вёскі Макаркі (XI-XIII ст.). Раскопкі вяліся на могільніку ў Чорнай Вялікай і Чорнай Царкоўнай (XII-XIII ст.).

Археалагічныя сляды ў цяперашнім Градзіску знаходзім у цэнтры вёскі — гэта рэшткі крэпасці з XI-XIII ст., г.зн. з перыяду, калі суседні Драгічын быў у росквіце. Захавалася частка зямельнага насыпу. Ёсць сляды старога валу з камення і зямлі, рэшткі магіл, бронзавыя і каменныя прадметы.

Гродзіск, Градзіска ці рускае „Городиско“ — гэта назвы не выпадковыя. У 80-х гадах там былі фальварчныя будынкі. Са знешніх умацаванняў захавалася заходняя частка валу. Уздоўж шашы, якая ідзе праз паселішча, цягнецца цяпер невысокі насып — гэта відавочныя сляды абароннага валу.

Гісторыя царквы ў Градзіску. Узнікненне першай царквы і праваслаўнага прыхода ў Градзіску наступіла ў XIII-XIV ст. У старажытных гарадзішчах як Драгічын, Мельнік, Бельск, дзе былі замкі, побач будавалі цэркбы Багародзіцы. Градзіская царква гэтак сама называлася, а прыхадское свята Багародзіцы святкуецца ў Градзіску і сёння. Найдаўнейшыя дадзеныя аб градзіскім прыходзе маем з часоў, калі амаль усе праваслаўныя прыходы на тэрыторыі цяперашняй Беласточчыны былі далучаны да уніі. Захаваліся запісы з трох візітацый цэркваў з гадоў 1727, 1757, 1789. Захавалася таксама метрыкальная кніга з 1756 г. аб хрышчэннях.



Разглядаючы метрыкальныя запісы ў кнізе хрышчэнняў з 1767-1776 г.г. можам сцвердзіць, што прыход у Градзіску ўзнік надоўга перад брэсцкай уніяй у 1569 г. У XVIII ст. уніяцкае духавенства апекавалася веруючымі заходняга (лацінскага) абраду ў мясцовасцях, несумненна шляхецкіх. На пачатку XIX ст. абсяг прыходаў пачынае завужвацца да мясцовасцяў з веравызнаннем выключна уніяцкім. У 1839 г. уніятаў вярнулі ў праваслаўе. На тэрыторыі градзіскага прыхода ў 1858 г. была пастаўлена могільнікавая царква ў вёсцы Чорная Вялікая. Дагэтуляшні храм Багародзіцы быў драўляны. Прыхаджане прыступілі таксама да пабудовы ў Градзіску мураванай вялікай царквы са званіцай св. Мікалая, якую пасвяцілі 22.10.1891 г. Навокал паставілі цагляны паркан.

Пачатак першай сусветнай вайны прынёс змены. У 1923 г. пры драўлянай царкве Багародзіцы была створана рымакаталіцкая парафія. Праваслаўныя згуртаваліся ля царквы св. Мікалая як філіяльнага храма прыхода ў Чорнай Царкоўнай. Праваслаўны прыход у Градзіску быў узноўлены толькі ў 1940 годзе.

Пасля заканчэння другой сусветнай вайны паявіліся цяжкасці ў духоўнай працы ў Градзіску. Не было парафіяльнага дома і зямельнага надзелу. Потым адзін з прыхаджан падараваў царкве кавалак зямлі, на якой пабудавалі парафіяльны дом разам з гаспадарчымі будынкамі. У гадах 1970-80 быў праведзены капітальны рамонт царквы і ўпарадкавана ўся прыцаркоўная плошча.

**Літаратура: Wiadomości Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego, 1982, nr 3—4, s. 23—55.**

**Р. С.**




(Працяг са стар. 4)

Неабходна, каб у дапамогу ГП уключыліся паасобныя дзеячы і калектывы. Толькі такім чынам зможам дасягнуць мэты. Усё прадказвае, што якраз зараз ёсць адпаведны грунт, каб нашае зерне пачало пускаць парасткі.

Апошнія грамадска-палітычныя перамены ў нашай краіне схілілі беларускую меншасць да многіх рэфлексій. Кожны з нас павінен зрабіць цяпер адпаведны вывад. А вывад просты — зберагчы свой самы каштоўны скарб: культуру і традыцыю нашых бацькоў і дзядоў, а перад усім радаслоўе беларуса.

**Ул. Сідарук**

і ўласнымі цяжкімі ранамі ў бітве над Мазгавай абараніў той жа Раманка! Адкуль такая перамена ў Кракаве? Мабыць, на Вавелі вельмі крыва глядзелі на рост Раманкавай магутнасці, асабліва на захоп ім Дарагічынскага і Берасцейскага княстваў, якія пры Казіміры Справядлівым знаходзіліся пад моцным уплывам Кракава. Немалую ролю ў настаўленні Лешкі супраць Раманкі адыграў таксама Аляксандр белзскі, які адзначаўся як выдатны дыпламат і якога маленечкае княства ў любы момант магло быць захоплена магутным дзядзькам.

Першы ўдар па Раманку прыйшоўся з поўдня: былы цесць Рурык разам з князем чарнігаўскім пры дапамозе полаўцаў у 1203 г. здабылі Кіеў, прагналі Раманкавага стаўленніка Інгвара, а полаўцы дашчэнту абрабавалі старажытную сталіцу і вывелі аграмадную колькасць кіеўлян у няволю. Раманка кінуўся „отомщиваться“: разбіў полаўцаў і затым схапіў былых цесця, цешчу, колішнюю сваю жонку і загадаў пастрыгчы іх у манахі, а былых сваіх швагроў закаваў у ланцугі, вывеў у Галіч і замкнуў у вежы.

Амаль не перадыхнуўшы, пайшоў князь галіцка-валынскі на поўнач, бо ў тым часе літоўцы з яцвягамі напалі на яго ўладанні „и добычи велия поимали“. Паход быў удалы. Раманка, як кажа адна з летапісных легендаў, набраў вялікага палону і пагнаў яго на цяжкія работы. Загадаў палонных літоўцаў і яцвягаў закаваць у плугі і выдзіраць імі карэнні на навінах. Калі адзін літовец навучыўся размаўляць па-руску, убачыўшы аднойчы князя, крыкнуў яму: „Рамане, Рамане, ліхім жывеш, што ліцвіном арэш!“

Забяспечыўшы свае ўладанні ад паўночных суседзяў, Раманка рушыў супраць князя кракаўскага Лешкі Белага, выкарыстаўшы для гэтага яго барацьбу з Уладзіславам — сынам былога Раманкавага ворага Мешкі Старога. У бітве каля Завіхоста над Віслай перамаглі войскі Лешкі Белага, загінуў Раманка і мноства яго вояў. Адбылося гэта роўна 780 год таму назад — 19 чэрвеня 1205 года.

Пагібель Раманкі абазначала поўны развал яго імперыі. Рурык скінуў манашаскую расу, сабраў войска і рушыў у Галічыну, здабываючы гарады і набліжаючыся да самога Галіча, але яго ўжо заняў кароль вянгерскі Андрэй. Аляксандр белзскі з адабрэння Лешкі Белага вярнуў сабе Берасцейшчыну, заняў Валынскае княства і сеў княжыць у яго сталіцы Уладзіміры, Лешка Белы тады, мабыць, падпарадкаваў сабе Дарагічынскае княства, князі пінскія вярнулі сабе колішнія свае землі на чале з Чартарыйскім і г.д. — словам пасля Раманкавай імперыі не засталося і следу.

Удава Раманкава разам з двума сынамі-сіратамі — чатырохгадовым Данілам і двухгадовым Васількам уцяклі шукаць прытулку ў Польшчы і ў Венгрыі.

Пасля смерці Раманкі землі Гарадзенскага, Берасцейскага і Дарагічынскага княстваў зноў узмоцнілі сувязі са сваімі паўночнымі суседзямі — Літвой і Яцвягіяй — і такім чынам пачаў адраджацца ранейшы „паўночны саюз“. Садзейнічаў гэтаму князь Аляксандр белзскі, які на паўночнай частцы Раманкавай імперыі пачаў будаваць сваю дзяржаву з уласнай палітыкай, далёка не ва ўсім згоднай з імкненнямі кракаўскага князя і іншых суседзяў. Але гэта ўжо іншыя часы і іншыя справы, пра якія ў наступным адрэзку.

**Мікалай Гайдук**




### ВЫЙГРАЛА

Калі муж з жонкай хоча добра жыць, то ён не павінен ашукваць. Гэты парадокс з'яўляецца шчытом, які бароніць бездапаможнага мужчыну перад не заўсёды лагічнай логікай жанчыны. Ашуканства дае яму магчымасць суіснавання з самаўпэўненай, упартай, „беспамылковай“ жанчынай, якая „ведае“, што яна ўсё лепш зробіць, лепш аформіць кожную справу і нават лепш зварыць ежу. Гэта такая самая праўда, як тое, што вош кашляе. Ёй і ў голаў ніколі не прыйдзе, што можа стацца ахвярай мужчынскага розуму. Яна аж просіцца, каб мужчына стаў ашуканцам. І ён такім становіцца, хоць не па сваёй волі.

Вось, па-суседску шлюбная пара, якой ужо далёка за пяцьдзесят. А пажаніліся яны зусім маладымі: ён не ўмеў кашулі мыць, а яна — яешню спячы. Але пакупкі для харчавання ён рабіў, бо яго мілая саромілася ўзяць у рукі кошык, або ісці з сеткай па пасёлку, каб, барані Божа, яшчэ хтосьці ўбачыў, што яе муж у краму паслаў? Ён, у сваю чаргу, любіў і любіць хадзіць у спажывецкія крамы, ды і хоча быць ва ўсім жонцы прыдатны, бо яе любіць.

Аднойчы здарылася, што ў спажывецкай краме не было тлустага малака. Ну, то ён купіў худое. Жонка давай яго лаяць. Што ён корміць яе „нейкай адцэджанай вадой“.

— Дарагая, гэта ж першы раз у жыцці так здарылася і калі не хочаш такога малака, дык сёння з'еш нешта іншае, — прасіўся муж.

Але яна і слухаць не хацела і, каб яго дабіць, схапіла бутэльку, ды й перахіліла ў ракавіну.

Знявагу ён перахварэў, але ў думцы абяцаў помсту, якую ажыццяўляе ўжо дзесяткі гадоў. Менавіта, дзесяткі гадоў купляе худое малако, прыкрывае бутэльку капселем ад тлустага малака і корміць ім жонку. Мала таго: вылівае малако з бутэлькі ў гаршчок для кіпячэння, палошча бутэльку халоднай вадой і бухае таксама ў гаршчок, і тою баўтухаю залівае зацірку, якую варыць на вадзе, локшыны, якіх да канца не адцэджвае, ды кашу. Жонка ўсё тое з'ядае з раскошай, ды цешыцца, што раз і назаўсёды навучыла дурня, якім малаком мае яе карміць, каб мела прыгожыя зубы і гладзенькую скуру на сваіх кругленькіх шчочках.

Калісьці, успомніўшы той няшчасны інцыдэнт, шмат гадоў таму назад ён спытаў:

— Скажы, дарагая, ці я не заслужыў на давер адносна малака?

— Так, дарагі, — адказала жонка. — Хвалюе мяне твая дабразычлівасць і ахвота служыць мне, але скажы сам, ці ж не лепш есці паўнавартаснае і смачнае малако?

— Ага, — сказаў муж і пачаў падлічваць даходы з розніцы цаны паміж худым і тлустым малаком.

Розніца ў цане выйшла малая, як і ў малацэ, але радасці было многа, што дагадзіў жонцы.

**Васіль Петручук**

(Працяг са стар. 3)

## ПАТРЭБНАЯ КНІЖКА

цяжкія ўмовы іх працы. Бо гарбары ў маштабе Капыля (ды і не толькі — усёй Беларусі) былі тады адным з вядучых атрадаў рабочага класа. Гэта значыць, пісьменнік зрабіў так, як Варынскі і многія іншыя рэвалюцыянеры. Дзякуючы Клейнбарту мы атрымліваем больш канкрэтны вобраз пісьменніка-дзеяча-марксіста і адначасова першага беларускага адраджэнца Капыля.

З іншых успамінаў як на далоні перад намі вырастае вобраз Жылуновіча, які ўсю сваю энергію аддае толькі-толькі нараджаючайся Савецкай Беларусі, як ён становіцца выдатным дзяржаўным дзеячом, выдаўцам, рэдактарам, як цягне за сабой іншых. Такім мала хто яго ведае да гэтага часу. Ведаем яго хутчэй за ўсё як пісьменніка, але, відаць, складальнікі спецыяльна падабралі аўтараў, якія больш за ўсё цанілі ў Жылуновічы рэвалюцыянера і дзяржаўнага дзеяча.

Вось як пачаў свае ўспаміны аб ім з 1928 года Аляксандр Чарвякоў, стараста Беларусі, старшыня ЦВК БССР: „Пачаўшы ў 1908 годзе друкавацца ў „Нашай ніве“, Цішка Гартны знайшоў, як сам кажа ў аўтабіяграфіі, свой шлях: яго „захапіла цалкам ідэя адраджэння Беларусі“. Таму яго можна залічыць да плеяды „нашаніўскіх адраджэнцаў“ або тых удзельнікаў ды кіраўнікоў нацыянальна-рэвалюцыйнага беларускага руху, што ідэалам сваёй рэвалюцыйнай працы і змагання лічылі дзяржаўнае адраджэнне Беларусі“.

Актыўнае грамадскае жыццё і дзяржаўная дзейнасць Цішкі Гартнага — гэта жывы адрэзак гісторыі, пачатак пачаткаў Савецкай Беларусі. Тым больш для нас цікавы, што ён сам прымае ўдзел, актыўны ўдзел, у такіх малавядомых падзеях, як нарада ў Леніна (стар. 79), праца ў Белнацкоме (амаль зусім невядомая старонка гісторыі), выдавецкая праца ў першыя гады за граніцай і ў Беларусі і г.д.

Найбольш яркімі старонкамі яго жыцця ў кнізе атрымаліся гады першага дзесяцігоддзя савецкай улады. І сам ён паўстае перад намі ў яркіх колерах. Але наступныя гады гінуць, як у імгле. Вельмі шкада

Я схільна меркаваць, што здарылася гэта таму, што не знайшлося больш удаеых аўтараў. Мне здаецца, што складальнікі не павінны былі застацца поўнасцю залежнымі ад іх. Каб у кніжцы аказаліся каментарыі (больш ці менш шырокія, з паданнем даты падзеі), яна стала б каштоўнай крыніцай вельмі важных гістарычных падзей, і гісторыя таго часу ажыла б перад намі ў больш канкрэтнай форме.

**Аляксандра Бергман**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Адзін біты дзесяцярых нябітых варты.

Больш рабі, а менш гавары.

Век зжыў, а розуму не нажыў.

Галава чалавекам камандуе.

Добра вучыць паслушнага.



Інтэрнат для невідушчых. Вельмі чыстыя, светлыя пакоі. У адным засталі мы Данусю Красуцкую — сімпатычную і як усе тут, радасную дзяўчыну. На працу пойдзе на другую змену, будзе рабіць шчоткі, а цяпер паказвае нам, як жыве. Дануся — грамадскі дзеяч, член рады спулдзельні і член самаўпраўлення інтэрнату.

# МОЦНЫЯ ДУХАМ

З вуліцы Добрай уваходзім на абгароджаную абшырную тэрыторыю Спулдзельні невідушчых (невідомых). Мы дамовіліся з віцэ-прэзасам спулдзельні па справах рэабілітацыі Янам Канецка.

Па прасторнай лесвіцы ўваходзім на паверх. Усюды так чыста, свежа! Парцье і іншыя, да каго звяртаемся, прыемна ветлівыя, усміхаюцца — рады нашаму візіту. Крыху потым сцвярджаем, што рады будуць чытаць наш фотарэпартаж у „Ніве“.

І так ад пачатку апынуліся мы ў атмасферы нармальнага рабочага дня 750 працоўных чалавек Спулдзельні невідушчых у Беластоку, з якіх 413 — невідушчыя І і ІІ групы, іншыя — гэта паўнаспраўныя людзі і працуюць у галінах, дзе вымагаецца поўнае здароўе, як напр. у транспарце.



У аддзяленні, дзе робяцца шчоткі. Стаіць у цёмных акулярах віцэ-прэзас Ян Канецка, які быў нашым праваднікам.

Мы прыйшлі да гэтых 413, бо Беластоцкая спулдзельня — адзіная такая на Беласточчыне. Яна дае працу і шанцы паўнацэннага жыцця гэтым людзям, дае апеку і прытулак, магчымасць індывідуальнага развіцця і ўдзелу ў грамадскай і культурнай дзейнасці.

Гэтыя людзі імпануюць! Ад іх б'е магутная маральная сіла, радасць і аптымізм.

Трэба перажыць размову з Янам Канецка (таксама невідушчым), каб адчуць, які ты сам слабы і бездапаможны.

Ад гэтых людзей, на якіх мы часта глядзім са спачуваннем, можна павучыцца стойкасці, незалежнасці і нялёгкага ўмення як з годнасцю жыць і працаваць. „Трэба не паддавацца“ — вось іх дэвіз.

А віцэ-прэзас Канецка мне ў адказ, так звычайна, паясняе: „А мы здзіўляемся, што людзі дзівуюцца, гледзячы на нас. Чалавек нармальны закрые твар рукамі, ступіць пару крокаў і пытае: куды я так зайду? Я яму адказваю: пэўна, што нікуды, бо не ўмееш — трэба навучыцца“.

І вучацца. Многа і ўсяму. Маладыя вучацца найперш у спецыяльных школах, дзе чытаюць і пішуць па Брайлю. Таксама чытаюць кніжкі, запісаныя на магнітафонныя стужкі.

Маладзенькая Аня Стахурская пасля заканчэння культурна-асветнага студыюма пры Ваяводскім доме культуры ўжо 2 гады працуе ў спулдзельні і займаецца якраз культурна-асветнай працай, якая мае тут велізарнае значэнне як элемент рэабілітацыі інвалідаў. Бібліятэка, тэатральны калектыў, дыскусіі, сустрэчы, спорт — усе формы прыцягваюць людзей і ствараюць магчымасці быць творчымі.

Паказвае нам Аня спецыяльную паперу для пісання па Брайлю, на якой члены тэатральнага калектыву хутка запісваюць падыктаванае ёю — кожны сваю ролю.

У насценгазеце, на каляровых здымках: спевакі і акцёры пасвяточнаму, м. інш., бачым нашу мілую знаёмую Галінку

## ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ

# ТРЭБА ЗМАГАЦЦА

Гэтае рашэнне нясмела прабівалася ў іх свядомасць. Нараджалася яно болей з патрэбы сэрца, са шчырага жадання, чымсьці з разумовай калькуляцыі.

Самым старшым па ўзросту і па вопыту ў падпольнай дзейнасці быў сярод іх, несумненна, ранейшы член Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі — Ян Цярэшка, жыхар вёскі Грыбаўцы. Мала ў чым уступалі яму Сцяпан Кандрусік, званы Капітанчыкам і Канстанцін Карповіч — абодва з Гарадка, хаця Косцік Карповіч выводзіўся таксама з Грыбаўцаў, але пайшоў у чыгуначнікі, ажаніўся з гарадоцкай дзяўчынай і там жа стаў жыць.

У гэтай жа групе знаходзіліся таксама крыху маладшыя людзі, найчасцей даўнейшыя камсамольцы, або проста жыццёвыя непаседы, якіх цягнула да невядомага, як начных матылькоў да агню. Народная памяць захавала прозвішчы Сярожкі Ігнацюка, Лазара Навіцкага, Валодзькі Абрамовіча.

Што ж яны маглі зрабіць, якую шкоду ўчыніць гэтакаму вялікаму захопніку? Кожнага з іх і прыхлопнуць можна было вельмі лёгка, як звычайнага камара. Калі, аднак, хмара камароў навісне над чалавекам, тады пачынаецца сапраўдная бяда. Такімі камарамі сярод акупацыйнай ночы явяцца мне гэтыя беларускія хлопцы з Гарадка і падгарадоцкіх вёсак: Скраблякоў, Страшава, Меляшкоў, Грыбаўцаў, Дзернякова.

Спачатку рашылі яны заняцца зброяй, якую пакінула ўцякаючая з беластоцкага катла Чырвоная Армія. Валялася яе ўсюды мноства па карчах і палях, у прышасейнай паласе.

Сёння ўжо цяжка сказаць, хто першы падказаў гэтую ідэю. А можа нарадзілася яна зусім стыхійна тады, калі кожны з іх сустракаў пад нагамі вінтоўкі, гранаты і рознага роду кулі. Вядома толькі, што дзеля гэтага, каб абмеркаваць справу, склікалі яны спецыяльны сход на хутары ў Грыбаўцах. Замкнуліся ў гумне і пад паскоранае біццё сэрца, у атмасферы хвалюючай таемнасці, вялі гэтую сваю першую падпольную сходку ва ўмовах гітлераўскага рэжыму.

Каб быў састаўлены пратакол з гэтага сходу, каб захаваўся ён да нашага часу, то, несумненна, быў бы ён цяпер важным дакументам, які адлюстроўваў бы нараджэнне народнага антыфашысцкага руху. На жаль, такога пратакола няма і быць не магло, бо ніхто тады яго не састаўляў і толькі няўстойлівая памяць нешматлікіх перажыўшых удзельнікаў той першай канспірацыйнай сустрэчы данесла да нас гэты сапраўдны гістарычны факт.

Група не мела свайго пастаяннага правадыра. Проста, сустрэліся сябры і знаёмыя, якіх яднала супольнае жаданне, каб нешта рабіць, каб змагацца, хаця вельмі цяжка было разлічваць на нейкі рашучы поспех у гэтым змаганні. Найбольш ахвотна і найбольш даверліва слухалі яны

Сельвяструк з Тыневіч В., якая жыве тут у інтэрнаце і працуе ў аддзяленні, дзе робяць яны рознакаляровыя шчоткі хатняга прызначэння, якія так ахвотна купляем у крамах. Галя, як і іншыя яе сяброўкі і сябры, — усебакова развітая і здольная — яна спявае, выступае ў тэатры, вяжа на прутках складаныя ўзоры і любіць самастойна аўтобусам прыязджаць у родную хату, да братоў, мамы і сардэчнай бабулі, якая на старыя гады таксама занябачыла.

Вядомы прыклады невідушчых людзей, у якіх выступае фенаменальны музычны слых. Нам у спулдзельні гэта пацвердзілі: свет гукаў вельмі багаты. І гэта іх свет. Яны чуюць і адчуваюць шмат разоў больш, чым іншыя. Таму такая ўражлівасць на гукі і на словы, бо любяць тут спяваць і ездзіць на экскурсіі, вельмі хочуць прымаць удзел у тэатральных пастаноўках і выяўляюць свае вялікія здольнасці.

Тэатральны калектыў Беластоцкай спулдзельні невідушчых выступаў у многіх гарадах, на многіх конкурсах. Сам слаўны Семён запрашаў іх у сваю „Прахоўню" ў Варшаву, на выступленне. І па тэлевізіі выступалі разам з найбольшымі зоркамі экрана.

Са спорту пададзім такі прыклад: спартсмен спулдзельчай каманды па лёгкай атлетыцы прыняў удзел у міжнародных спаборніцтвах у Галандыі вясной 1984 г., а ўвосень таго ж года пабываў у Італіі.

А цяпер пару слоў аб вытворчасці рук гэтых людзей. Спулдзельня выпускае каля 200 відаў розных вырабаў (шчоткі, тартоўніцы, трубкі, бляшкі, трапачкі, засаўкі, карнізы, жабкі розныя, фотакасеты і г.д.). Вартасць прадукцыі іх за 1984 г. — 401.600 тысяч зл., у плане на 1985 г. зрабіць на 30 млн. больш.

Калі, чытач, будзеш купляць, асабліва ў прамыслова-гаспадарчых крамах, розныя рэчы, ведай, што іх зрабілі людзі, якія не бачаць, але якія больш чуюць. А можа і больш бачаць?..

**Вера Леўчук**

Фота Я. Чэрнякевіч



Гэтая мілая жанчына — Антаніна Сяменьчук (цяжка паверыць, што яна не бачыць) хутка і беспамылкова выконвае на машыне касеты для фотаапаратаў.



Адведалі мы бібліятэку — кнігі ў касетах. Адна кніжка бывае ў пяці і больш касетах, на 23, нават 38 гадзін слухання. Бібліятэка Беластоцкай спулдзельні невідушчых мае гэтакіх кніжак тысячу. На здымку: „Як падабалася кніжка?" — Анна Стахурская вядзе бібліятэку для невідушчых. Чытач Рышард Фэрэнц прынёс „прачытаную" кнігу і раіцца, што ўзяць яшчэ.

Янука Цярэшку. Гэта хіба ён першы загаварыў аб чырвонаармейскай зброі, што варта яе падабраць і захаваць, пакуль лясоў і палёў не ачысцілі самі акупанты.

— Я думаю так, — далучыўся да яго Капітанчык, — хай кожны з нас збірае ў лесе ўсё, што трапіць яму ў рукі і хай кожны абсталюе сабе надзейнае сховішча, непрыкметнае для непажаданых вачэй.

— Ну і добра было б, — працягваў свае вывады Янук Цярэшка, — каб неяк забяспечыць ад іржы, асабліва розныя самастрэлы і хуткастрэлы. Найлепш гэта зрабіць пакулем, намочаным у машынным масле.

Ніхто з іх яшчэ не ведаў, калі і дзеля чаго спатрэбіцца гэтая зброя, але ўсе яны ўзяліся за справу вельмі ахвотна. Знайшліся толавыя шашкі, якія менш асвядомленыя сяляне ўспрымалі за кускі мыла. Траплялiся рознага тыпу наганы і рэвальверы, шмат было вінтовак. Знайшлі некалькі кулямётаў і поўныя скрынкі шмат якой амуніцыі.

Некалькі дзён пазней, сапраўды, акупацыйная ўлада наладзіла планавую ачыстку падначаленай ёй тэрыторыі ад пакінутай зброі. Па лясах і палях прайшлі два стралковыя ланцугі нямецкіх салдат, якія сістэматычна, з уласцівай ім германскай дакладнасцю, прачэсвалі ўсё наваколле, збіраючы ўсялякую рухомую ваенную маёмасць і заадно ачышчаючы лясы ад адзінокіх савецкіх салдат і малых груп, якія адарваліся ад сваіх воінскіх часцей і шукалі падтрымкі ў мясцовых сялян.

У пачатковым перыядзе акупацыі была гэта яшчэ адна дзялянка для праяўлення актыўнасці гэтых людзей, якім сэрцы падказвалі патрэбу змагання з ворагам.

Яшчэ пры панскай Польшчы нейкі мясцовы немец (было іх даволі многа ў Гарадку і Міхалове), па прозвішчу Шмідт, абсталяваў у лесе за станцыяй Валілы своеасаблівы курорт, які складаўся з некалькіх дачаў-асабнякоў. Прымаў у іх „летнікаў", якія прыязджалі сюды на адпачынак.

Чырвонаармейскае камандаванне ў гэтым Шмідтавым куророрце абсталявала свой ваенны гарадок, дзе праходзілі паскораную вучобу будучыя камандзіры Чырвонай Арміі. У часе гітлераўскай агрэсіі неяк так склалася, што гэтыя курсанты не змаглі адступіць і групамі блукалі па наваколлі. Калі надакучыў голад, калі патрацілі надзею на хуткае вяртанне сваіх, яны прыгадалі аб мясцовых сябрах, з якімі ў мірны час часта наладжвалі супольныя гульні, запрашалі ў сваё гарнізоннае кіно. Цяпер яны, савецкія афіцэры, прасілі дапамогі ў сялян.

І зноў з вуснаў у вусны пайшлі ўказанні і парады, што трэба рабіць, каб дапамагчы гэтым людзям. Колькі можна было, колькі ўдалося, столькі размеркавалі іх па хатах, у паасобных, болей давераных сялян, якія згадзіліся ўзяць на паруку гэтых былых савецкіх камандзіраў і запісалі іх ва ўласныя сем'і.

Прыпісных „бацькоў" не ўсім хапіла, бо не кожны селянін адважыўся ўзяць савецкага афі-

(Працяг на стар. 8)

(Працяг са стар. 2)

# ПАДЗЕННЕ МЕТЭОРА

Сапраўды, ён бліснуў яркім бляскам на небасхіле гісторыі і патух, як метэор. Але ж сам прафесар медыцыны Хрысціян Бернард ніяк не можа змірыцца з гэтым. Ён і зараз упарта не хоча парываць са сваім такім кароткім і знакамітым мінулым, усяляк чапляецца да яго, імкнучыся выкарыстаць у сваёй далейшай дзейнасці.

Зараз Хрысціян Бернард пасяліўся ў Грэцыі, на невялікім востраве ў Эгейскім моры і пачаў ствараць там так званы „Міжнародны інстытут прафілактычнай медыцыны". Яго сяліба мае выгляд даволі сціплага пасёлка, у якім, аднак, растуць сучасныя будоўлі гарадскога тыпу. Ужо зараз будучы інстытут наведваюць шматлікія цікаўныя эксцэнтрычныя турысты. І што яны там бачаць? Проста розныя па апошняму слову тэхнікі абсталяваныя душавыя, ванны, сауны і спартзалы. Апрача ўсяго гэтага, там пабудавана і шыкоўная зала для пасяджэнняў на прэстыжную думку гаспадара, для правядзення медыцынскіх кангрэсаў, сімпозіумаў і з'ездаў. Прафесар не страчвае надзею на тое, што яму яшчэ давядзецца сустракацца з найвядомымі эскулапамі свету, на роўных меці справу са свяцiламі навукі. У цэлым задачу перад сваім інстытутам ён ставіць такую: не толькі папярэджваць розныя захворванні, а і перш за ўсё пошук метадаў, якія дапамаглі б пацыентам на доўгія гады захоўваць добрую форму і маладжавасць, фізічную і псіхічную бадзёрасць. Хрысціян Бернард не хавае, што яго лячэнне будзе каштаваць дорага. Ды гэта ўмова толькі больш распальвае азарт мільянераў, многія з якіх ужо ўнеслі ў шматабяцаючае пачынанне вядомага прафесара свой шчодры і важкі аванс. Сярод пацыентаў Хрысціяна Бернарда ёсць сусветныя знакамітасці, і нават некалькі асоб — прадстаўнікоў каралеўскіх сямействаў.

Цікавая і такая дэталь. Прафесару Бернарду мала паказалася сваёй былой славы для рэкламы новага прадпрыемства, дык ён вырашыў яшчэ выкарыстаць з той жа мэтай і чужое выдатнае імя. У сваіх праспектах аб будучым інстытута прафілактычнай медыцыны ён разпораз напамінае, што гэты востраў пад інстытут выбраны ім не выпадкова: іменна тут больш як два тысячагоддзі таму назад нарадзіўся адзін з першых заснавальнікаў медыцыны на зямным шары — вечна незабыўны Гіпакрат, клятву якога і да гэтай пары паўтарае ўсё медыцынскае саслоўе планеты. І ў гэтай рэкламе Бернарду заўзята дапамагае яго ўжо трэцяя маладшая сяброўка, якая, можа, ніколі і не стане яго сапраўднай жонкай.

А. Ж.

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**26 мая — Дзень Маці. У гэты дзень павіншуем усіх мам, уручаючы ім кветкі, і прадумаўшы свае дагэтуляшнія паводзіны, вырашым быць лепшымі, каб нашы мамы як найчасцей радаваліся нашымі поспехамі, захаваннем, паводзінамі. Каб нашы мамы часцей усміхаліся і радаваліся жыццём.**



**ШМАТ РАДАСЦІ І ШЧАСЦЯ ЎСІМ МАМАМ.**

**Т. Ільхамаў**

## МАТУЛІНЫ РУКІ

**Як прыйдзе вясна,
Гляне сонца з-за хмар,
Сады зашчабечуць,
Ручай запяе.
Як возьме матуля
У рукі дутар,
Пачуе планета ўся
Песню яе.
Няхай жа не знаюць
Ні стомы, ні болю
Матуліны рукі
Ніколі, ніколі!**

**Вясновае сонца,
Нібы чарадзей,
Вырошчвае кветкі,
Каб рупна цвілі.
Матуліны рукі
Гадуюць дзяцей —
Надзею і радасць.
Няхай жа не знаюць
Ні стомы, ні болю
Матуліны рукі
Ніколі, ніколі!**

**Вясновы вятрыска
Падзьме ўвышыні,
Каб чыстай была
Васільковая шыр.
Працуюць матуліны
Рукі ўсе дні,
Каб сонца ўсміхалася
Дзецям,
Быў мір.
Няхай жа не знаюць
Ні стомы, ні болю.
Матуліны рукі
Ніколі, ніколі!**

**Спяшаецца весні
Ручай у сады —
Вадой напаіць,
Працуюць матуліны
Рукі заўжды,
Каб наша жыццё
Яшчэ лепшым зрабіць.
Няхай жа не знаюць
Ні стомы, ні болю
Матуліны рукі
Ніколі, ніколі!**

**З узбекскай пераклаў
М. Чарняўскі**

## Сквапныя мядзведзікі

**Казка**

1

*За высокімі гарамі,
за сыпучымі пяскамі,*

*над вялікаю ракою
цёмны бор стаяў сцяною.*

*А ў бары, у пушчы самай
з мядзвядзіхай, роднай мамай,*

*два мядзведзікі-блізняты
ля сваёй гулялі хаты.*

*Вось адзін з іх кажа матцы:
— Трэба нам у свет падацца!*

*У жыцці далейшым можа
памагчы нам падарожжа!*

*Адказала ім старая:
— Думку вашу я вітаю.*

*Сапраўды, пабыўшы ў свеце,
пасталееце вы, дзеці. —*

*Без адкладу, тым жа часам
торбы ім дала з прыпасам.*

*І наказ дала ў дарогу,
каб глядзеў адзін другога,*

*каб ні крыўды, ні абразы
не было ў іх ані разу.*

*Перад маткаю сваёю
сталі ў рад яны абое.*

*Пакланіўшыся у пояс,
У адзін сказалі голас:*

*— Твой наказ мы добра чулі.
Здзейснім мы яго, матуля! —*

2

*Па далінах, па узгорках,
дзе пры сонцы, дзе пры зорках*

*перайшлі браты нямала,
покуль мелі ў торбах сала.*

*Але вось бяда якая:
той запас не прыбывае.*

*Памяншаецца няспынна
ў торбах сала і вяндліна.*

*І, нарэшце, стала пуста:
ані лусты, ні да лусты...*

*За адной бядой другая —
ім здабыча не трапляе.*

*Хоць бы рыбка, хоць бы зайчык,
хоць бы хлеба дзе акрайчык,*

*хоць бы дзе кусток маліны —
толькі сосны ды яліны...*

*Вось адзін мядзведзік кажа:
— Мне аж кішкі голад вяжа! —*

*А другі ў адказ на тое:
— І ў мяне, браток, такое! —*

*У такім настроі кепскім
перайшлі яны узлескам.*

*А за ўзлескам нечакана
ім адкрылася паляна.*

*На паляне, проста долу,
кілбаса ляжыць, як кола.*

*Вось удача дык удача!
Медзвяняты проста скачуць.*

*Застаецца толькі сесці
і знаходку тую з'есці.*

*Але тут ізноў пытанне:
хто і як дзяліць ім стане?*

*Над знаходкай гэтай стаўшы,
так і сяк памеркаваўшы,*

*пачалі браты сварыцца,
як зусім чужыя быццам.*

*— Ашукаеш ты, напэўна!
— Ды і ты дзялец няпэўны!*

*Перад бойкаю нібыта,
загырчэлі ўжо сярдзіта.*

*Гэтым часам, быўшы блізка,
да братоў падбегла ліска.*

*Стала ясна ёй здалёку,
што ў тых хлопцаў мала клёку*

*І надумала лісіца
ўсёй знаходкай пажывіцца.*

3

*Пакланіўшыся ім нізка,
пачала мірыць іх ліска.*

*— Што вы, хлопцы, што вы,
мальцы!
Хіба ёсць карысць у сварцы?*

*Падзяліць калі не ўмееце,
дык мяне хоць папрасілі б.*

*Ціха, мірна, паступова
будзе ўсё для вас гатова!*

**(Працяг на стар. 10)**



**У пачатковай школе ў Белавежы шмат ужо гадоў пад кіраўніцтвам настаўніка Баляслава Рыхтэра працуе школьны хор разам з інструментальным аркестрам. Мастацкі калектыў не раз заваёўваў першыя месцы на розных міжшкольных конкурсах. На здымку — салісты інструментальнага аркестра Міраслаў Дулько з акардэонам, Тамаш Савіцкі з бубнам і Пётр Харкевіч з маракасамі.** **Фота Я. Чэрнякевіч.**

**Рыгор Мароз**

## Па родных мясцінах

Прыгожы выпаў дзень. Ад раніцы сонейка свеціць.

— Слухай, Ярачак, — кажа дзед. — Адразу пасля ўрокаў прыходзь дамоў. Пойдзем у поле.

— А чаго, дзеду?

— Паходзім, паглядзім.

„Што ў полі цікавага?" — падумаў малы і падаўся ў школу.

Не звычайны гэта быў дзень — Юрыя, дзень святочны. А малы не мог дачакацца канца заняткаў. Аж настаўніца прыкмеціла:

— Ты чаму, Ярак, такі неспакойны? — спытала.

— Дзед мяне чакае. У поле пойдзем. Толькі не ведаю, чаго па полі хадзіць.

— Ідзі, Ярак, ідзі. Усё, аб чым даведаешся, нам раскажаш. Старыя людзі шмат цікавага ведаюць.

Прыбег малы дахаты і з парога адразу да дзеда:

— Давай, дзеду, пайшлі!

**(Працяг на стар. 10)**

(Працяг са стар. 9)

## ПА РОДНЫХ МЯСЦІНАХ

— А абед?
— Не ўцячэ!
— Калі так, дык з сабою возьмем.

Пайшлі. І дзед пачаў:
— Ведаеш, малы, сёння Юрыя. Такі дзень, што ў поле ісці трэба. Паглядзець, пахадзіць. Жаўрука паслухаць. Даўней інакш было. Бабка пякла каравай — і ў поле. Качаць каравай трэба па пшаніцы, па жыце. А жыта, бывала, тады ўжо па калена. Не тое, што цяпер. Ледзь толькі пазеленела і не ведае, што рабіць: ці то расці, ці то чакаць. Потым збіраліся ўсе, гасцявалі. Пілі, елі, спявалі. Весела было. Прыемна. Святочна. А пад вечар музыка была на ўсю вёску. А цяпер ад вясны да восені толькі трактары гудуць.

— Глядзі, дзеду, а жыта расце!

— Расце, расце. Пойдзем найперш лугамі.

— А чаму лугамі яны завуцца? — пытае малы.

— Бачыш, тут калісьці сапраўды лугі былі. І шмат вады. Дзікіх качак шмат было, кнігавак. Рыбы поўна было. П'явак. Зімою, як замерзне, як вока абыме, — лёд і лёд. Калі разагналі калісьці з'езд сялянскай Грамады ў нашай вёсцы, дэлегаты ўцякалі на лёд, карнікі па ім не маглі гнацца за імі на конях.

— Дзеду, дзеду, паглядзі — кнігаўка! Чаму яна ўвесь час над намі лётае і кігікае.

— О, малы. Яна разумніца. Ад свайго гнязда адводзіць.

— А дзе гняздо?

— Гэта яе таямніца. А вось і выпуст.

— А чаму ён так завецца?

— Сюды выпускалі раней пасвіць коней, кароў, свіней. Можа таму і выпуст. Ад слова — выпускаць, выганяць. А тут чыгунка пралягла. Яна дзеліць выпуст на пярэдні і задні. Вось тут каля самай чыгункі было мноства вады. І то глыбокай. Качкі тут вадзіліся. Карасі. Трыснёг рос. Рай для вадзяных птушак. На ўзгорку хатка стаяла, дзядуля ў ёй жыў. Цяпер усё прапала, бо ваду асушылі. Качкі адляцелі на пінскія балоты, бо вады не стала.

— Вада, пэўна, у раку сплыла?

— Не. Высахла яна, да ракі не дабраўшыся. Далей вунь палетак — крыначкай завецца. Запытаеш, пэўна, чаму. Нізкае месца. Крынічка там заўсёды была. А тут палетак — бакоўка. Сам узгорак і за ўзгоркам. А так завецца таму, што калісьці, як на пана працавалі, адпачывалі за ўзгоркам, на баку можна было паляжаць. Бліжэй вёскі луг завецца дубовым. Відаць, калісьці тут дубы раслі.

Дзед так упэўнена расказваў, нібы ўсё гэта сам бачыў.

— Калісьці тут вакол непраходныя лясы былі.

— Таму, мабыць, і вёска наша Старое Беразова завецца?

— Заснавалася яна, пэўна, на лясной паляне, сярод старых сіва-белых бяроз. Аб гэтым мне мой дзедка расказваў. Пэўна, каб мяне гэтым зацікавіць.

Нарэшце, шпацыр сваё зрабіў. Ярак пачаў адставаць ад дзеда. Стары прыкмеціў гэта і кажа:

— Робім адпачынак. Пасядзім. З'ядзім і дадому. Даволі ўжо вандроўкі. Урокі рабіць трэба. Баюся, каб мой урок табе двойкі не прынёс.

— Ой, дзедку, не! — і моцна, моцна абняў дзеда. — Вывучу ўсё. Пабачыш. І ў класе ўсім раскажу, што бачыў.

— Што ж, раскажы, — усміхнуўся ў вусы дзед.

## Для самых маленькіх

### ЗЕРНЕТКА

**Знайшоў певень зернетка.**
**— Ко-ко-ко! — паклікаў ён курак.**
**Падыйшоў да яго малады певунік па прозвішчы Цып.**
**— А чаму ты сам не з'ясі зернетка?**
**— Таму што я ў курынай сям'і тата і павінен клапаціцца аб усіх.**
**— Але зернетка ты ж сам знайшоў!**
**— А куркі з'ядуць і мне дзякуй скажуць. „Дзякуй" смачней за зернетка.**
**Знайшоў Цып чарвяка і аддаў яго сястрычцы.**
**— Дзякуй, Цып.**
**Смачна ці нясмачна Цыпу ад гэтага слова? Так нічога і не зразумеў. Знайшоў мушку і сам з'еў. Было смачна, смачней за „дзякуй". Узяў Цып і выдумаў песеньку:**

**Кукарэку! Кукарэку!**
**Вы не верце недарэку!**
**Нават куча добрых слоў**
**Не заменіць чарвякоў!**

**Певень паківаў галавой — у малога нават яшчэ і хвост добра не адрос, а ўжо важнічае!**
**А Цып так расспяваўся, што і не заўважыў, як адзін застаўся. А калі цябе не слухаюць, дык і спяваць не цікава. Пайшоў Цып шукаць курак. Глядзіць, а яны якраз скурку ад хлеба дадзёўбваюць. Крыўдна яму зрабілася. Паскардзіўся ён пеўню. А певень яму на тое:**
**— Ці ж ты сам не здагадаўся, чаму цябе не паклікалі? Куркі не клічуць таго, каму чарвяк даражэй за слова „дзякуй".**

*А. Грэчуха*

(Працяг са стар. 9)

### СКВАПНЫЯ МЯДЗВЕДЗІКІ

*Медзвяняты вельмі рады,*
*што лісіца дасць ім рады.*

*Пачала дзяліць лісіца,*
*хітраванка-хітравіца, —*

*Кілбасу ім, як папала,*
*на дзве часткі разламала.*

*Медзвяняты загудзелі:*
*— Што ты, як ты, ліска,*
*дзеліш?!*

*Ўдавочная тут справа,*
*частка большая направа!*

*— Гэта, хлопчыкі, драбніца! —*
*ім адказвае лісіца. —*

*Падраўняць знайду я сілы... —*
*і кілбаскі адкусіла.*

*Зноў не рады медзвяняты:*
*— У правай стала малавата!*

*— Гэта, хлопчыкі, драбніца! —*
*ім адказвае лісіца. —*

*Падраўняць знайду я сілы... —*
*і ад левай адкусіла.*

*Медзвянят бярэ трывога:*
*— Стала ў левай менш намнога!..*

*— Гэта, хлопчыкі, драбніца! —*
*ім адказвае лісіца,*

*а сама ад правай, левай*
*памаленьку ела, ела...*

*Пасля гэткіх падраўнанняў*
*ліска з'ела ўсё дазвання*

*і пабегла да крыніцы,*
*каб напіцца там вадзіцы...*

*А галодным медзвянятам*
*засталося небагата:*

*шкурацінкі ды аб'еддзе*
*па лісіцыным абедзе...*

**Уладзімір Дубоўка**



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Я хачу павіншаваць усіх мам з іх Днём і пажадаць ім усяго найлепшага, а галоўнае — найбольш здароўя, радасці і шчаслівых, доўгіх гадоў жыцця.

У мяне ёсць дзве мамы — родная і хрышчоная. Я іх вельмі люблю і цешуся, што іх маю.

Мая бабуля кажа, што вельмі цяжка жыць без мамы. Бо мая бабуля не памятае свае мамы, і часта мне расказвае, як цяжка было жыць сіраце.

У 1939 годзе мая бабуля працавала на фабрыцы медсястрой на 3 камбінаце ў Беластоку. Тады на фабрыку прывезлі з Варшавы чатырох хлопчыкаў з дому сірот. яны там вучыліся рамясла, а вечарам хадзілі ў школу. Адзін з гэтых хлопчыкаў быў на кватэры ў маёй бабулі сяброўкі. Гэты хлопчык быў падкідышам і часта жаліўся, што ў яго няма мамы. Казаў, што ён нікому нічога не зайздросціць, ніякіх скарбаў, а толькі завідуе дзецям, у якіх ёсць мамы. „Як бы я хацеў мець маму, — казаў ён, — няхай бы яна была нават гарбатая, кульгавая ці крывая, якая б ні была, абы я мог сказаць „мама" і быў бы шчаслівы."

А яшчэ я хацела б расказаць вам яшчэ адну гісторыю, якую я бачыла. Мінулым летам мы з бабуляй былі на вёсцы. І вось аднойчы сядзім мы на двары і бачым, як кошка нясе мыш. Прынесла, паклала на траву і кліча сваю дачку. А ў яе было дзве дачкі, але ўжо вялікія, як і яна. Але адна была на адно вока сляпая. І маці дала мыш ёй. Яна ведала, што кошцы з адным вокам цяжэй злавіць мыш. А сама кошка падышла да курачай міскі і пачала есці бульбу з атрубамі. Тады бабуля і кажа:

— Паглядзі, Анечка, на гэтую кошку. У яе сэрца маці.

З вялікаю пашанаю да Цябе, „Зорачка",

**Аня Касабук, вуч. 4 класа, Беласток**

## Пазнаёмімся

СССР, 340036, г. Донецк-36, ул. Курсантов, 7, кв. 3. Климкиной Юле. 3 клас.

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Киргизская, 5, кв. 34. Кравцовой Лилии. 5 клас.

СССР, 346516, Ростовская обл., г. Шахты-16, ул. Мечникова, 7а, кв. 85. Семенковой Нелли. 9 клас.

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, П/О Майский, ул. Ленина, 13, кв. 61. Кушнарёвой Оксане.



Вяртаючыся са школы, дзеці згубілі пяць прадметаў. Дапамажыце знайсці іх.



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

### ГАЗОН

Аднойчы ў горадзе зніклі таблічкі з надпісам: „Па газонах не хадзіць!“ і ў многіх з'явілася такое пачуццё, якое бывае, калі раптам вынесуць з кута ў хаце шафу, што стаяла там трыццаць гадоў, і ўсе прывыклі яе бачыць.

Нехта, зірнуўшы на газоны, сказаў:

— Таблічак на іх няма. Што ж гэта атрымліваецца: газоны... без таблічак?!

— Прабачце, а навошта яны вам? — спытаў я. — Вы што, па газонах без іх будзеце хадзіць?

— Не, не!

— Дык у чым справа?

— Ну, каб ужо напэўна не хадзіць.

**Мікола Капыловіч**

### ЧАКАННЕ

Паміж лугоў і палёў нашай Бельскай зямлі,
На беразе рэчанькі Белкі,
Дрэмле памятка дзён,
Што даўно ўжо ідуць —
Новая ачышчальня ў Бельску.

Сон над ёю свой мак засеяў,
Будаўнічыя даўно напіліся,
Інжынеры заснулі над будоваю гэтай
І машыны ўжо заіржавелі.

А рака плыве, як плыла,
І свет брудзіць больш чвэрць веку,
Толькі людзі ідуць
І на ўлады злуюць,
Што нічога няма тут дагэтуль.

Вось рэформа ідзе,
Можа сон той змяце,
Каб і следу па ім не застала,
Каб закончыўся тут,
На ўвесь век гэты бруд
І каб рэчанька чыстаю стала.

**Ю. Сцяпанаў,**
Відава



Утаймаванне Пегаса.




З чаго смяюцца суседзі.




### НАПЕРАДОВІЧ

Гэта быў вельмі сучасны чалавек. Выцтам заўсёды крочыў у нагу з часам. І глядзеў толькі наперад. Але вось аднойчы ён азірнуўся па баках і нікога не ўбачыў. „Няўжо я так далёка ўсіх абагнаў?“ — падумаў ён. Яму было няўцям, што ён усё жыццё ішоў не ў той бок.

### ПАПУГАЙ

— Дык гэты папугай не гаворыць ні слова! — абураецца пакупнік, які хоча купіць гаворачага папугая.

— Вы памыляецеся! Ён маўчыць, каб адпомсціць мне за тое, што я так танна хачу яго прадаць.

### СЕВАЗМЕНА

Сусед пытае ў дзеда Ахрыма:

— Вось вы ўжо пры маёй памяці гадоў дваццаць садзіце бульбу на адным месцы. І родзіць! А кажуць, што трэба рабіць севазмену.

— А мы севазмену робім, — адказвае дзед. — Адзін год баба садзіць бульбу, а на другі год — я.



Made in Zadrypanka



Не біў ляжачага. Але і не падымаў яго.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Афіцыянт! Прынясіце бакал амброзіі!

— Як вы сказалі?

— Ці ж вы не ведаеце, што такое амброзія? Гэта ж напітак багоў!

— О Божа! Прабачце, я Вас не пазнаў!

*

Турысты з ФРГ ідуць па Лондану.

— Паслухай, Ганс, а ты не ведаеш, як у іх называецца гэта рака?

— Уяўлення не маю. У нас у Кёльне яна называецца Рэйн.

*

Цяжка хворы муж ляжыць у ложку, а жонка піша ліст. Павярнуўшыся да мужа, яна пытае:

— Джордж, як правільна пішацца: пахаванне ці пахаванне?

### НЕ НА ТОЙ АЎТОБУС

Падвыпіўшы, Кастусь ехаў дадому на аўтобусе і хацеў з кім-небудзь пагаварыць. Убачыўшы, што сядзеўшы побач хлопец разглядвае геаграфічную карту, ён пацікавіўся, што гэта за карта.

— Гэта карта Афрыкі, — адказаў хлопец.

Кастусь уважліва паглядзеў у акно і сказаў:

— Здаецца мне, хлопча, што ты сеў не на той аўтобус.

З „Весніка Задрыпоніі“

### СЯМЕЙНАЯ ДРАМА

Пані Маралевіч падала заяву на развод, якую яна абгрунтавала тым, што муж нават не прасіў прабачэння пасля таго, як выпіў выпіць куфель піва ў 1957 годзе, а вярнуўся ў 1985-м.

### НЕЙМАВЕРНА, АЛЕ ФАКТ

Нягледзячы на ўсе сатырычныя і гумарыстычныя выступленні ў друку і на эстрадзе, адносна працы навукова-даследчых інстытутаў, НДІ працягваюць працаваць.










### АМЕРЫКА!

Кожны пяты амерыканец не ўмее пісаць і чытаць. Паводле сведчання „Фонду абароны дзяцей“, кожны чацверты школьнік у Злучаных Штатах Амерыкі вымушаны кідаць вучобу. Вельмі дорага абыходзіцца школа. Л. Олсан у кнізе „Кошт дзяцей“ прывёў ашаламляльную статыстыку. Каб хлопчыка, які нарадзіўся ў 1980 годзе, дабрачынна дагадаваць да дваццаці двух гадоў, даўшы яму пры гэтым належную адукацыю, бацькі павінны выдаткаваць 226 тысяч долараў. Дзяўчынка будзе каштаваць яшчэ даражэй — 247 тысяч.

### 800 000!

Кожнаму пісьменнаму жыхару Злучаных Штатаў вядома лічба: васемсот тысяч. Столькі ў гэтым стагоддзі загінула амерыканцаў ад рук сураімыннікаў. Каго застрэлілі, а каго зарэзалі альбо задушылі. І ў многіх выпадках без дай прычыны. Так, проста каб трошкі пацешыць сябе.




**Прызнацца ў памылках яшчэ цяжэй, калі ты іх не рабіў.**